ГРОДНА
№21 (573),
21 лістапада 2021

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Першы пакліканы




*Св. апостал Андрэй – чалавек веры і надзеі, які нават праз сваю смерць прывёў да Хрыста вялікія тлумы людзей.*

на старонцы 2

## Павышаем энергаэфектыўнасць у целе і навакольнай прасторы




*Як эфектыўна саграваца ў халодную пару года і ўцяпліць прастору вакол сябе?*

на старонцы 6

## Этапы падрыхтоўкі да сужэнства




*Паспяховы сужэнскі саюз патрабуе шмат часу і працы над сабой ды адносінамі з блізкім.*

на старонцы 7

# ГОЛАС СВЕЦКІХ ВЕРНІКАЎ НАПЭЎНА ПАЧУЮЦЬ




**Усеагульны Касцёл перажывае ўнікальную падзею – рыхтуецца вялікае апытанне ахрышчаных і людзей добрай волі. Адна з яго мэт – "даць магчымасць усяму Божаму народу разам вызначыць, як рухацца наперад па шляху да больш сінадальнага Касцёла". Размаўляем са старшынёй сінадальнай камісіі ў Беларусі біскупам Аляксандрам Яшэўскім пра сэнс і задачы гэтага незвычайнага Сінода.**

на старонцы 3

# БУДАВАННЕ СУПОЛЬНАСЦІ ПРАЗ СУПРАЦОЎНІЦТВА



*Кс. Яўген Учкуроніс з парафіянамі падчас урачыстасці Спаслання Святога Духа*

**Людзі, а не сцены будынка, у першую чаргу з'яўляюцца парафіяй. Супольнасць ствараюць асобы. Так адбываецца, калі мы з'яўляемся не толькі атрымальнікамі, але і ўдзельнікамі.**

на старонцы 5

СЛОВА РЭДАКТАРА

## Дарагія Чытачы!

*У кастрычніку ва ўсіх дыяцэзіях Каталіцкага Касцёла ў свеце пачаўся дыяцэзіяльны этап падрыхтоўкі да Сінода Біскупаў. Усе супольна распазнаюць знакі Божага дзеяння і Яго намеры адносна Касцёла сёння.*

*Ідэя Сінода не заключаецца ў тым, што плануюцца нейкія змены. Трэба ў гэты час прыслухоўвацца да таго, што сёння Святы Дух кажа Касцёлу – гэта значыць нам, нашым парафіям, супольнасцям, сем'ям і розным ініцыятывам.*

*Толькі калі мы разам пачуем Божы голас, то зможам пачаць думаць, што рабіць, каб ажывіць яго.*

*Просьма Святога Духа, які нас вядзе, каб пасяліўся ў нашых сэрцах, паказаў нам, па якой дарозе і як мы павінны ісці!*



*кс. Юрый Марціновіч*

КАЛЯНДАР

**22 лістапада**

***Успамін св. Цэцыліі, панны і мучаніцы.***

*Паводле традыцыі, Цэцылія нарадзілася ў пачатку III стагоддзя. Яна была жыхаркай Рыма, склала абяцанне чыстасці з любові да Хрыста і памерла за веру. У 5 стагоддзі ў Рыме была ўзведзена базіліка ў яе гонар. Св. Цэцылія – заступніца харыстаў, скрыпічных майстроў, музыкаў, арганістаў і вакальна-музычных калектываў.*

**24 лістапада**

***Успамін св. Андрэя Зунг-Лака і 116 паплечнікаў, в'етнамскіх мучанікаў.***

*В'етнамскія мучанікі загінулі ў 1773–1862 гадах за публічнае вызнаванне веры ў Езуса Хрыста. Акрамя місіянераў з Еўропы і мясцовых святароў (у гэты лік увайшлі восем біскупаў і пяцьдзесят святароў), гінулі таксама катэхеты і свецкія. Яны выбралі лепш памерці, чым адмовіцца ад святой каталіцкай веры.*

**28 лістапада**

***Першая нядзеля Адвэнту.***

*Адвэнт распачынае новы літургічны год у Касцёле. Складаецца з двух перыядаў. Першы (ад пачатку Адвэнту да 16 снежня ўключна) кіруе нашы сэрцы да чакання паўторнага прышэсця Езуса ў славе ў канцы часоў. Другі перыяд – гэта час непасрэднай падрыхтоўкі да ўрачыстасці Нараджэння Хрыста, у якой мы ўспамінаем першае прышэсце Хрыста на зямлю. Асаблівым знакам гэтай падрыхтоўкі з'яўляюцца раараты – св. Імша ў гонар Маці Божай.*

**4 снежня**

***Успамін св. Барбары, панны і мучаніцы.***

*Легенда цалкам засланіла гістарычную асобу св. Барбары. Магчыма, яна паходзіла з Нікамедыі (сённяшні Ізміт). Паводле традыцыі, бацька-язычнік зняволіў яе як хрысціянку ў вежы. Паводле старога падання, там ёй аб'явіўся анёл з келіхам і гостыяй. Барбара была абезгалоўлена, верагодна, каля 305 года ў Нікамедыі або Геліяпалісе, падчас ганенняў у час праўлення імператара Галерыя. Святая з'яўляецца заступніцай паміраючых, шахцёраў, будаўнікоў і пажарных.*

# ПЕРШЫ ПАКЛІКАНЫ

працяг са с. 1

**Св. Андрэй у многіх атаясамліваецца з "андрэйкамі" або са шматлікімі народнымі прыказкамі, звязанымі з яго імем. Між тым, у імені св. Андрэя ўтоена нашмат глыбейшае пасланне – пасланне веры, вынікам якой у нашым жыцці павінны стаць жывыя адносіны з Езусам Хрыстом.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

Андрэй быў чалавекам, які шукаў, які падзяляў надзеі Ізраіля, які хацеў зблізку пазнаць Божае слова. Ён быў сапраўды чалавекам веры і надзеі. Менавіта ён як вучань Яна Хрысціцеля адкрыў у сваім сэрцы, што Езус – Той, хто павінен быў прыйсці. Зразумеў, што Ён з'яўляецца Месіем, Баранкам Божым, на якога ўказаў Ян. "Яны пайшлі і ўбачылі, дзе Ён жыве, і засталіся ў Яго ў той дзень" (параўн. Ян 1, 39).

**У іканаграфіі св. апостал Андрэй прадстаўлены ў выглядзе пажылога чалавека з густымі сівымі валасамі і пышнай каroткай барадой. Яго атрыбуты: Х-падобны крыж, кніга, рыба, сетка.**

Андрэй вельмі хутка стаў сапраўдным апосталам Хрыста. І хоць як першы пакліканы не адыгрываў пазней галоўнай ролі ў коле апосталаў, ад пачатку выдатна ведаў, што павінен весці іншых да Хрыста. Менавіта ён прывёў да Езуса свайго брата Сымона, а потым, падчас апостальскай місіі, – вялікія тлумы людзей.

У Евангеллі і ва ўсім Новым Запавеце мы не знойдзем шмат звестак пра св. Андрэя. Вядома, што ён быў рыбаком, братам Сымона Пятра, вучнем Яна Хрысціцеля, а затым апосталам Хрыста. Андрэй знаходзіўся побач з Госпадам, калі Ён учыніў першы цуд у Кане Галілейскай, быў тым, хто перадаў Езусу просьбу Філіпа аб дазволе язычнікам таксама ўбачыць Пана.

Аднак значна большую, жывую памяць пра гэтага апостала захавалі традыцыя Касцёла і пазабіблейская літаратура. Паводле іх, пасля спаслання Святога Духа апостал Андрэй адправіўся ў дзікую Скіфію, размешчаную на Чорным і Каспійскім марах. Ён учыніў там шмат цудаў: аздараўляў хворых, вызваляў апантаных і ўваскрашаў мёртвых. Пасеяўшы зерне Божага слова, апостал накіраваўся ў Калхіду, Фракію і, нарэшце, дабраўся да Патраў у Грэцыі, дзе заснаваў хрысціянскую супольнасць. Яго лічаць апосталам Усходу. Для праваслаўных св. Андрэй з'яўляецца адным з найважнейшых святых, якога яшчэ называюць апосталам славян.

Пра вернасць Езусу Хрысту да канца гаворыць нам змешчанае ў апокрыфах апісанне мучаніцкай смерці Андрэя: "О святы, найдаражэйшы, жаданы крыж, забяры мяне адсюль і аддай Госпаду і Настаўніку майму, каб Ён прыняў мяне так, як збавіў мяне праз цябе; потым ён пацалаваў святы знак збаўлення і аддаў сябе ў рукі катаў".

Паводле традыцыі, смерць першага апостала на крыжы назіралі дванаццаць тысяч чалавек. Калі ён паміраў, зверху з'явілася дзіўнае ззянне. Пасля гэтага многія людзі навярнуліся і прынялі веру ў імя Хрыста.


holyart.com

**У літургіі Касцёла св. апостала Андрэя ўспамінаем 30 лістапада.**

Папросім св. апостала Андрэя, каб ён дапамагаў нам ісці ў сваім жыцці за Езусам з гатоўнасцю гаварыць пра Яго тым, каго сустракаем на сваім шляху, і, перш за ўсё, развіваць адносіны сапраўднай блізкасці з Хрыстом. Бо толькі ў Ім мы можам знайсці канчатковы сэнс нашага жыцця і нашай смерці.

# ГОЛАС СВЕЦКІХ ВЕРНІКАЎ НАПЭЎНА ПАЧУЮЦЬ

працяг са с. 1

Арцём Ткачук

***– Эксцэленцыя, растлумачце, як кажуць, простаму беларускаму католіку, навошта патрэбен Сінод і які яго сэнс?***

– Вельмі добра на гэтае пытанне адказвае Вадэмэкум для Сінода ў пункце 1.2: “Сінод [...] паказвае шлях, па якім разам ідзе Божы народ. [...] Сінадальнасць абазначае асаблівы стыль, які вызначае жыццё і місію Касцёла, выяўляючы яго прыроду як Божага народа, які ідзе разам і збіраецца на сход, скліканы Панам Езусам у моцы Святога Духа, каб абвяшчаць Евангелле”.

Не трэба шукаць у гэтым Сінодзе чагосьці незвычайнага. Перш за ўсё, ён склікаецца, каб нанова адкрыць кожнаму з нас метад абвяшчэння Евангелля. Большасць вернікаў жыве з думкай, што хрысціянскае жыццё абмяжоўваецца ўдзелам у нядзельнай св. Імшы, асвячэннем вербачак, зёлак ці свянцонкі на велікодны стол. Многія лічаць таксама, што галоўнае – мець Бога ў сэрцы і душы, а ўдзел у літургічным, сакраментальным і місіянерскім жыцці Касцёла не важны альбо, прынамсці, не галоўны. Акрамя таго, лічыцца, што заданне абвяшчаць Евангелле і перадаваць веру ўскладзена толькі на святароў і манаскіх асоб. Гэты спосаб мыслення моцна абмежаваны і вельмі памылковы. Ён робіць верніка “пасіўным гледачом”, а не актыўным удзельнікам штодзённага жыцця Касцёла, таксама адказным за яго лёс. Усе мы павінны быць сумленнымі і добрымі вернікамі не толькі ў мурах касцёла, мусім і па-за ім праяўляць сябе як католікі, як вестуны Добрай Навіны.

Над уваходам у некаторыя касцёлы змяшчаецца надпіс: “Сюды ты ўваходзіш, бо любіш Бога, а адсюль выходзіш, каб любіць чалавека”. Дык вось, у першую чаргу, любоў да чалавека выяўляецца ў абвяшчэнні іншым Праўды, якою ёсць Езус Хрыстус: “Я – дарога, і праўда, і жыццё” (Ян 14, 6).

***– У Пастырскім лісце ККББ на распачацце Сінода Біскупаў на тэму сінадальнасці ёсць такія словы: “Слухаць тых, хто мае тыя ж погляды, што і мы, не прыносіць плёну”. Каго ў Беларусі ў гэтым ключы Вам цікава паслухаць?***

– Усіх людзей добрай волі, усіх тых, хто мае жаданне выказацца. Католікаў, праваслаўных, веруючых іншых рэлігій, няверуючых, атэістаў. Заўсёды добра ведаць погляды, якія адрозніваюцца ад нашых. Нездарма прыказка сцвярджае, што ў спрэчцы нараджаецца ісціна.

Дарэчы, распрацаваная анкета ананімная. Не трэба пісаць сваё імя і прозвішча. Дыяцэзіяльны сінадальны працэс – гэта духоўны працэс, працэс распазнання. Неабходна, як кажа папа Францішак, “слухаць Бога, каб мы маглі з Ім пачуць крык Яго народа; слухаць Яго народ, пакуль мы не прыйдзем да гармоніі з воляй, да якой Бог заклікае нас”.

***– Узгадваюцца таксама “католікі, якія рэдка ці ніколі не практыкуюць сваю веру”. Ці ёсць у Вас нейкія ідэі, як заахвоціць гэтую катэгорыю людзей да дыялогу?***

– Дыялог – гэта размова паміж двума людзьмі. Папа і біскупы зрабілі сваю прапанову – запрасілі да дыялогу. Зараз павінны зрабіць свой крок іншыя людзі, сярод якіх і католікі, што не практыкуюць сваю веру. Мы гатовы слухаць і пачуць, гатовы да канструктыўнай крытыкі і прапаноў.

***– У пастырскім лісце таксама ёсць словы: “Кожны ахрышчаны павінен адчуваць сябе саўдзельнікам у касцёльных зменах”. Наколькі голас свецкіх вернікаў чуюць у беларускіх курыях? Што можа змяніць Сінод?***

– Спачатку трэба адказаць на пытанне, што такое курыя. Гэта ўстановы і асобы, якія дапамагаюць дыяцэзіяльнаму біскупу ў кіраванні ўсёй дыяцэзіяй, асабліва ў пастырскай дзейнасці, эканамічнай сферы і выкананні судовай улады (параўн. кан. 469). Найпрасцей можна сказаць, што курыя пад кіраўніцтвам біскупа кардынуе дзейнасць Касцёла ў дыяцэзіі. Да яе заданняў належаць таксама зносіны з іншымі касцёльнымі ўстановамі, прыватнымі асобамі і свецкімі вернікамі.

Згодна з канонам 129 ККП, уладу кіравання, якая існуе ў Касцёле згодна з Боскім устанаўленнем, маюць толькі асобы са святарскім пасвячэннем. А ў ажыццяўленні гэтай улады могуць прымаць удзел і свецкія вернікі. Дарэчы, мы бачым, што сёння ў курыях працуе дастаткова шмат свецкіх.

Сказаць, што вернікаў у беларускіх курыях не чуюць, было б некарэктна. Курыя ці біскуп стараюцца пачуць кожны голас і адказаць на яго. Пытанне, наколькі гэты голас аб'ектыўны, – ужо іншая справа. Вы нават сабе не можаце ўявіць, колькі зваротаў ад свецкіх вернікаў атрымлівае курыя і колькі з іх не адносяцца да яе кампетэнцыі.

Калі казаць пра голас свецкіх у кантэксце Сінода, то яго напэўна пачуюць. Сінадальны працэс павінен паспрыяць паглыбленню еднасці між намі, больш поўнаму ўдзелу і больш плённай місіі.

***– А што наконт слоў: “Пераадольвайце бедства клерыкалізму”? Якая сітуацыя з клерыкалізмам, на Ваш погляд, у Беларусі?***

– Што такое клерыкалізм? У Вікіпедыі чытаем: “Клерыкалізм – гэта палітычны кірунак, які дабіваецца галоўнай ролі Касцёла і духавенства ў сацыяльным, палітычным і культурным жыцці грамадства. У вузейшым, эклезіялагічным сэнсе – арганізацыя касцёльнага жыцця, якая прадугледжвае дамінаванне кліра – духавенства. Носьбітамі клерыкалізму выступаюць духавенства і звязаныя з Касцёлам асобы. Клерыкалізм выкарыстоўвае ў сваіх мэтах не толькі касцёльны апарат, але і розныя клерыкальныя арганізацыі, клерыкальныя палітычныя партыі, а таксама створаныя пры цесным удзеле Касцёла прафсаюзныя, моладзевыя, жаночыя, культурныя і іншыя арганізацыі”.

Мне здаецца, што ў Касцёле ў Беларусі няма гэтай праблемы. Касцёл выказвае сваё гледжанне па важных сацыяльных, палітычных, маральных пытаннях, але не навязвае яго грамадству.

Калі казаць пра г. зв. “клерыкалізм” у парафіях, то ўсё ж першы адказны за душпастырскую дзейнасць – святар, пробашч парафіі. І гэтую адказнасць ён нясе перад Богам і дыяцэзіяльным біскупам, наступнікам апосталаў.

***– “Мы павінны быць гатовыя змяніць свае меркаванні”, – пішуць беларускія біскупы. Ці можна сказаць, што гэты Сінод з'яўляецца пэўнай “дэмакратызацыяй” Касцёла? Каб кожны прымаў удзел, стараўся ўплываць. Як Вы лічыце, біскупы і курыі да гэтага гатовы?***

– Гаварыць пра “дэмакратызацыю” Касцёла было б няправільна і памылкова. Касцёл усё ж застаецца іерархічны. Гэтаму нас вучыць і Катэхізіс, і Кодэкс кананічнага права.

“Хрыстос Сам ёсць Крыніца служэння ў Касцёле. Ён яго ўстанавіў, даў яму ўладу і місію, накірунак і мэту: «Хрыстос Пан, каб пасвіць і памнажыць Народ Божы, устанавіў у сваім Касцёле розныя служэнні, накіраваныя на карысць усяго цела. Бо служыцелі, якія валодаюць святой уладай, служаць сваім братам, каб усе, хто належыць да народа Божага, [...] прыйшлі да збаўлення»” (параўн. ККК 874).

Кожны з нас у Касцёле мае сваё заданне, дзякуючы якому ўсе, згодна са становішчам і абавязкамі, супрацоўнічаюць дзеля будавання Цела Хрыстовага (параўн. ККК 872). На маю думку, і біскупы, і курыі гатовыя да гэтага супрацоўніцтва. Пытанне можа быць у іншым: наколькі вернікі да гэтага падрыхтаваныя і гатовыя? Кіраваць і ўплываць на Касцёл жадаюць многія, а “закасаць рукавы і папрацаваць” – адзінкі.




**Бп Аляксандр Яшэўскі SDB** – дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, біскупскі вікарый для г. Магілёва і Магілёўскай вобласці. Старшыня сінадальнай камісіі пры ККББ.

### СКЛАД СІНАДАЛЬНАЙ КАМІСІІ ПРЫ ККББ

*__Бп Аляксандр Яшэўскі SDB__ – адказны ў Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, старшыня.*
*__Кс. кан. Аляксандр Мацкевіч__ – адказны ў Гродзенскай дыяцэзіі.*
*__Кс. Андрэй Рылка__ – адказны ў Пінскай дыяцэзіі.*
*__Кс. Аляксей Лешко__ – адказны ў Віцебскай дыяцэзіі.*
*__Кс. Віктар Гайдукевіч SDB__ – старшыня Каардынацыйнай рады манаскіх асоб у Беларусі.*

*Акрамя сінадальнай камісіі пры ККББ, у кожнай дыяцэзіі створана свая камісія, у склад якой уваходзяць духоўныя асобы і свецкія вернікі. Усе яны былі прызначаны сваімі біскупамі.*

### СПОСАБ ПРАВЯДЗЕННЯ СІНАДАЛЬНАЙ КАНСУЛЬТАЦЫІ

*На __catholic.by__ з'явіцца асобная платформа, дзе будзе змешчана ўся даступная інфармацыя пра дыяцэзіяльны этап Сінода Біскупаў у дыяцэзіях Беларусі.*

*Адмысловая анкета будзе змешчана на старонцы catholic.by, у газетах __“Слова Жыцця”__ і __“Каталіцкі веснік”__, часопісах __“Дыялог”, “Ave Maria”, “Наша вера”__.*

*Ужо створаны паштовыя скрыні для магчымасці даслаць анкеты ў фармаце Word.*
*__sinod.minsk@gmail.com__ – для Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.*
*__sinod.grodno@gmail.com__ – для Гродзенскай дыяцэзіі.*
*__sinod.pinsk@gmail.com__ – для Пінскай дыяцэзіі.*
*__sinod.vicebsk@gmail.com__ – для Віцебскай дыяцэзіі.*

*Будзе магчымасць запаўнення анкеты ў фармаце Google для карыстальнікаў інтэрнэт-рэсурсаў і сацыяльных сетак.*

*Просім пробашчаў надрукаваць некалькі копій анкеты і размясціць іх у адпаведным месцы ў касцёле для старэйшых парафіян, а таксама дапамагчы ім у перасылцы адказным у дыяцэзіях.*

### АНІМАЦЫЯ АНКЕТЫ СІНАДАЛЬНАЙ КАНСУЛЬТАЦЫІ БУДЗЕ АДБЫВАЦЦА:

*- падчас пастырскіх сустрэч духавенства і манаскіх асоб у дыяцэзіях.*
*- падчас сустрэч розных груп і малітоўных рухаў, прысвечаных тэме Сінода і сінадальнай кансультацыі.*

*Анкета будзе прадстаўлена на беларускай, рускай, польскай і англійскай мовах.*

## АКТУАЛЬНА

*Ватыканскае радыё*

### У Касцёле з'явяцца сем новых святых

15 мая 2022 года ў Касцёле з'явяцца сем новых святых. Рашэнне аб іх кананізацыі было зацверджана Папам на кансісторыі 3 мая бягучага года.

Гаворка ідзе пра Лазара Пілая, вядомага як Дэвасахаям, індыйскага свецкага верніка, мучаніка, забітага з нянавісці да веры; французскага святара Сэрара дэ Бю, заснавальніка Кангрэгацыі Айцоў Хрысціянскай Дактрыны; Луіджы Марыю Палацолу, заснавальніка манаскай Супольнасці Сясцёр Бедных; Джусціна Марыю Рusаліла, італьянскага святара, заснавальніка Таварыства Боскіх Паклікаанняў і Кангрэгацыі Сясцёр Боскіх Паклікаанняў; французскага святара Шарля дэ Фуко; Марыю Францэску ад Езуса (свецкае імя – Ганна Марыя Рубата), італьянскую манахіню, заснавальніцу кангрэгацыі сясцёр тэрцыярак і капуцынак з Лаана; Марыю Даменіку Мантовані, сузаснавальніцу і першую генеральную настаяцельніцу Інстытута Малых Сясцёр Святой Сям'і.

### Пілігрымы вяртаюцца ў Святую Зямлю

Пасля таго, як Ізраіль зноў адкрыў свае межы для вакцынаваных турыстаў, арцыбіскуп П'ербатыста Піцабала чакае новага прытоку пілігрымаў. “Мой вопыт паказвае, што пілігрымы, якія прыехалі ў Святую Зямлю, здзейснілі пілігрымку, перажываюць глыбокія змены ў сваім жыцці. Вы можаце чытаць Евангелле, дзе б вы ні знаходзіліся, але, прыязджаючы сюды, з'яўляецца разуменне, што Бэтлеем, Назарэт і Бэтанія – не нейкія памятныя месцы, а рэальнасць. І гэта дапамагае наблізіцца да асобы Езуса як да канкрэтнай рэчаіснасці”, – адзначыў іерарх.

Лацінскі Патрыярх Ерусаліма падкрэсліў, што вяртанне пілігрымаў чакаюць і мясцовыя хрысціяне, якія ў значнай ступені залежаць ад абслугоўвання пілігрымскага руху. Ад гэтай падтрымкі залежыць выжыванне мясцовага Касцёла.

### Манахіня прызначана Генеральным сакратаром Губернатарата

Упершыню ў гісторыі Генеральным сакратаром Губернатарата Дзяржавы Ватыкан стала жанчына.

Папа Францішак прызначыў на гэтую пасаду с. Рафаэлу Петрыні, манахіню з Кангрэгацыі Францішканак Сясцёр Эўхарыстыі. С. Рафаэла нарадзілася ў 1969 годзе ў Рыме. Закончыла Міжнародны незалежны ўніверсітэт Гвіда Карлі па спецыяльнасці “паліталогія” і абараніла дактарат на факультэце сацыяльных навук Папскага ўніверсітэта св. Тамаша Аквінскага ў Рыме, дзе цяпер выкладае эканоміку дабрабыту і сацыялогію эканамічных працэсаў. З 2005 года была супрацоўніцай Кангрэгацыі Евангелізацыі Народаў.

### Малітоўныя інтэнцыі на снежань

**паўсюдная**

Молімся за катэхетаў, пакліканых абвяшчаць Божае слова, каб былі яго мужнымі і крэатыўнымі сведкамі з моцай Святога Духа.

**дыяцэзіяльная**

Молімся, каб Пан блаславіў сужэнцаў і сем'і.

# АДЫШОЎ У ВЕЧНАСЦЬ КС. ФРАНЦІШАК КУКЛІС




**6 лістапада ў Літве адышоў у вечнасць кс. Францішак Кукліс, святар Гродзенскай дыяцэзіі. У апошнія гады ён служыў у Вілкавішскай дыяцэзіі.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

Кс. Францішак нарадзіўся 2 красавіка 1970 года, паходзіў з парафіі Найсвяцейшай Панны Марыі Ружанцовай у Дзевенішках (Літва). Прэзбітэрскае пасвячэнне атрымаў 19 мая 2001 года ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне з рук біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча.

Пасля пасвячэння святар служыў у Гродзенскай дыяцэзіі: у парафіі св. ап. Якуба ў Цудзенішках (дэканат Ашмяны), парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе, а таксама ў парафіі св. Юды Тадэвуша ў Прывалцы (дэканат Гродна-Усход). Затым у 2007 годзе выехаў у Літву, дзе служыў да моманту смерці.

Пахаванне спачылага святара адбылося 9 лістапада ў яго роднай парафіі ў Дзевенішках (Віленская архідыяцэзія).

***Просьма Пана Бога, каб аказаў памерламу сваю міласэрнасць і адарыў вечным шчасцем!***

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ЭФІОПІЯ.** 17 салезіянскіх місіянераў і 16 супрацоўнікаў ААН былі арыштаваныя ў сталіцы краіны. Гэта адбылося ў рамках прэвентыўных затрыманняў, якія праводзяць урадавыя сілы ў дачыненні да членаў племя Тыграі. Прадстаўнікі менавіта гэтай этнічнай групы знаходзіліся ў кіруемым манахамі цэнтры для беспрытульных дзяцей у Адыс-Абебе. Затрыманых адвезлі ў невядомае месца. Салезіяне прысутнічаюць у Эфіопіі з сярэдзіны 1970-ых гадоў. Яны паспяхова стварылі пляцоўкі ў пяці рэгіёнах краіны, у тым ліку ў Тыграі. У адпаведнасці са сваёй харызмай, манахі кіруюць адукацыйнымі цэнтрамі як для дзяцей, так і для дарослых, моладзевымі цэнтрамі і прытулкамі для бяздомных дзяцей. У цяперашні час правінцыя налічвае каля 100 членаў, якія жывуць у 15-ці дамах па ўсёй краіне.

**УКРАІНА.** Рэкалекцыі для бяздомных прайшлі ў Кіеве ў шосты раз. Удзельнічаць у іх маглі бяздомныя жыхары сталіцы. Нягледзячы на тое, што рэкалекцыі ладзіць Каталіцкі Касцёл, у іх прымаюць удзел усе жадаючыя, незалежна ад веравызнання. “Першае, што было важна, – накарміць гэтых людзей, памыць і даць выспацца. Яны, як самі кажуць, адпачылі ад вуліцы, дзе жывуць, а часта яшчэ і ад алкаголю. За некалькі дзён яны змаглі адрадзіцца”, – кажа адзін з арганізатараў рэкалекцый бр. Себасцьян Янкоўскі OMI.

**АЎСТРАЛІЯ.** Арцыбіскуп Мельбурна Пітэр Каменсолі заявіў, што ўвядзенне ў Закон аб роўных магчымасцях папраўкі адносна рэлігійнага пытання сур’ёзна абмяжуе правы канфесіянальных арганізацый кіраваць уласнай дзейнасцю ў адпаведнасці са сваёй верай і сумленнем. Ніл Фостэр, прафесар права з Універсітэта Ньюкасла, пасля вывучэння законапраекта, які быў накіраваны на другое чытанне, прыйшоў да высновы, што гэта сур’ёзная пагроза свабодзе веравызнання. Як пракаментаваў юрыст, разам з папраўкамі школы, якімі кіруюць рэлігійныя супольнасці, страцяць права адбору персаналу на падставе таго, ці падзяляюць кандыдаты фундаментальныя каштоўнасці, якім навучаюць у школе.

**ФРАНЦЫЯ.** Французскія біскупы будуць прадаваць касцёльныя каштоўнасці, каб выплаціць кампенсацыі ахвярам педафіліі. Такое рашэнне было прынята на пленарным сходзе Канферэнцыі біскупаў Францыі, які завяршыўся ў Лурдзе. Апублікаваны дакумент сведчыць, што ў 1950–2020 гадах 216 тыс. чалавек сталі ахвярамі сексуальных дамаганняў з боку святароў, манахаў або манахінь. Гэтая колькасць узрастае да 330 тыс., калі ўлічыць тых, каго дамагаліся свецкія працаўнікі ўстаноў Каталіцкага Касцёла. За апошнія 70 гадоў каля 3 тыс. святароў і манаскіх асоб здзейснілі сексуальныя злоўжыванні ў дачыненні да непаўналетніх.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# ПРА СІНОД НА ТЭМУ СІНАДАЛЬНАСЦІ




*Падчас пасяджэння галоўнай камісіі і старшыняў камісій I Сінода Гродзенскай дыяцэзіі*

**У кастрычніку ва ўсіх дыяцэзіях свету ўрачыста распачаўся Сінод Біскупаў. Яго мэта – супольнымі сіламі распрацаваць асаблівы стыль, які дапаможа вызначаць шлях і місію Касцёла. Аб тым, як мы можам паўплываць на рашэнні, што прымаюцца “зверху”, і стаць актыўнай часткай супольнасці Касцёла, расказвае адказны за Сінод Біскупаў у Гродзенскай дыяцэзіі кс. доктар Аляксандр Мацкевіч.**

### АНКЕТА

На цяперашнім этапе падрыхтоўкі Сінода Біскупаў распрацоўваецца адзіная для дыяцэзій Беларусі анкета, адрасаваная ўсім людзям добрай волі, якія жадаюць прыняць удзел у Сінодзе і падзяліцца сваім меркаваннем па пытаннях жыцця Касцёла. Анкета будзе даступна як у інтэрнэце ў электронным выглядзе, так і ў друкаваным варыянце ў парафіях. Да 1 лютага 2022 года любы ахвотны зможа запоўніць анкету найбольш зручным для сябе спосабам і даставіць яе (электроннай або традыцыйнай поштай, асабіста або перадаўшы, напрыклад, праз пробашча) у дыяцэзіяльную сінадальную камісію. Даныя, змешчаныя ў запоўненых анкетах, будуць прааналізаваны дыяцэзіяльнай сінадальнай камісіяй, якая пасля правядзення неабходнага сінтэзу падрыхтуе дакумент і перадасць яго нацыянальнай камісіі пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі.

Святы Айцец жадае, каб на Сінодзе Біскупаў былі пачуты ўсе, хто з’яўляецца для супольнасці Касцёла “спадарожнікамі на жыццёвым шляху”, у тым ліку непрактыкуючыя католікі, хрысціяне іншых веравызнанняў, паслядоўнікі нехрысціянскіх рэлігій і нават няверуючыя людзі. Дайсці да іх і заахвоціць прыняць удзел у Сінодзе – складаная задача. Таму мы разлічваем на зацікаўленасць і дапамогу католікаў, у асяроддзі якіх ёсць такія асобы. Было б выдатна, калі б католікі заахвоцілі іх запоўніць анкету. Хачу адзначыць, што неабавязкова адказваць на ўсе пытанні анкеты: рэспандэнт можа абмежавацца толькі тымі тэмамі, якія лічыць найбольш важнымі, найбольш цікавымі або на якія проста хоча выказацца. Акрамя таго, апошняе пытанне ў анкеце будзе адкрытым, гэта значыць, што кожны зможа напісаць на любую тэму, якая, на яго думку, важная для Касцёла. Будзем удзячныя ўсім, хто пажадае падзяліцца сваімі думкамі з супольнасцю Касцёла.

На сучасным этапе дыяцэзіяльных кансультацый найважнейшай задачай, якая стаіць перад нашай сінадальнай камісіяй, з’яўляецца менавіта збор як мага большай колькасці галасоў у анкетах. Чым большая будзе разнастайнасць рэспандэнтаў (па ўзросце, месцы жыхарства, вызнаванай веры і г. д.) і чым больш адказаў яны захочуць даць, тым больш поўнай будзе карціна нашага грамадства і тым лепш мы зразумеем, якія яго чаканні і прапановы для Каталіцкага Касцёла.

### ГОЛАС СВЕЦКІХ

Касцёл – гэта супольнасць, якая пастаянна развіваецца, сталее і ў той жа час патрабуе пастаяннага навяртання. Калі азірнуцца на той шлях, які прайшоў Каталіцкі Касцёл пасля рэформ II Ватыканскага сабору, то, думаю, усе пагодзяцца, што сёння голас свецкіх вернікаў значна больш чутны, чым паўстагоддзя таму. Гэта таксама вельмі выразна бачна ў стылі пантыфікату папы Францішка, які пастаянна падкрэслівае ролю свецкіх асоб у Касцёле, між іншым, давяраючы ім высокія і адказныя пасады, якія да гэтага часу традыцыйна займала духавенства. Такім чынам, цяперашні Сінод Біскупаў – гэта яшчэ адзін шанс, каб усе мы як супольнасць Касцёла яшчэ лепш навучыліся ўважліва слухаць адзін аднаго і канструктыўна разважаць.

### СІНОД ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ 2017 І СІНОД БІСКУПАЎ 2021

Як знак Провіду можна ўспрыняць, што Сінод Біскупаў адбываецца ў час правядзення Сінода Гродзенскай дыяцэзіі. Гэтыя дзве падзеі маюць крыху розныя тэмы, розныя мэты і непараўнальны дыяпазон. Дыяцэзіяльны Сінод звязаны з жыццём нашага мясцовага Касцёла. Яго лозунг “Жыць Евангеллем” вызначае яго найважнейшую мэту, якая заключаецца ў напаўненні духам Добрай Навіны розных вымярэнняў асабістага, сямейнага і грамадскага жыцця ў Гродзенскай дыяцэзіі. Мэтай Сінода Біскупаў з’яўляецца сумеснае разважанне аб сінадальнасці Касцёла, якая выяўляецца ў камуніі, удзеле і місіі. Сінод Біскупаў – гэта падзея ў маштабе Паўсюднага Касцёла, і яго пытанні датычаць жыцця католікаў ва ўсім свеце. Нягледзячы на гэтыя адрозненні, некаторыя вынікі працы нашага дыяцэзіяльнага Сінода будуць выкарыстаны ў працы Сінода Біскупаў.

***Кс. Антоній Грэмза, адказны за I Сінод Гродзенскай дыяцэзіі***

*На дадзены момант падрыхтаваны рабочы тэкст Сінода, над якім вядзецца дыскусія ў 16-і сінадальных камісіях, што складаюцца з духоўных і свецкіх асоб. Яны зацвярджаюць тэкст для сваёй камісіі. Пасля матэрыялы будуць перададзены ў дэканальныя камісіі, якія змогуць унесці свае прапановы ў гэты ж тэкст.*

*Для Гродзенскай дыяцэзіі сінадальнае супрацоўніцтва з’яўляецца чымсьці новым, нібы экзаменам для нас усіх. Кожны вернік дыяцэзіі мог праз анкету, размешчаную ў газеце “Слова Жыцця”, паўдзельнічаць у працы Сінода і ўнесці свае прапановы. Вынікі апытання выкарыстоўваюцца ў працы сінадальных камісій.*

*На жаль, у ходзе Сінода былі заўважаны прабелы ў свядомасці свецкіх вернікаў датычна адказнасці за Касцёл і ўменні супрацоўнічаць з духоўнымі асобамі ў розных касцёльных ініцыятывах.*

*Канешне, хацелася б, каб I Сінод Гродзенскай дыяцэзіі стаў добрай базай для нашых вернікаў адносна ўдзелу ў Сінодзе Біскупаў, які датычыць самой сутнасці сінадальнасці Касцёла. Застаецца спадзявацца, што працы нашага дыяцэзіяльнага Сінода стануць добрым імпульсам да абуджэння адказнасці за Касцёл у сучасным грамадстве і лепшага разумення сутнасці сінадальнасці як адшукання сумеснай дарогі да ажыўлення яго дзейнасці.*

# БУДАВАННЕ СУПОЛЬНАСЦІ ПРАЗ СУПРАЦОЎНІЦТВА

працяг са с. 1

**Аб узаемадзеянні пробашча і касцёльнага камітэта мы пагаварылі з пробашчам парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні кс. Яўгенам Учкуронісам.**

Кацярына Паўлоўская

***– Кс. Яўген, як у Вашай парафіі пабудавана супрацоўніцтва паміж святаром і касцёльным камітэтам? Гэта фармальнае фарміраванне?***

– Нічога звышнатуральнага няма. Згодна з правам кананічным, у Статуце кожнай супольнасці павінен быць прапісаны орган кіравання – парафіяльны камітэт, альбо лепш назваць Рада.

У нашу Раду ўваходзіць 15 чалавек. Сярод іх ёсць і старшыня, і скарбнік, і рэвізійная камісія, да абавязкаў якой належыць, між іншым, правядзенне інвентарызацыі, запіс набытых рэчаў у гэты пералік. Ёсць яшчэ адказны за пытанні літургічнага характару, за арганізацыю паездак, і асоба, якая займаецца парафіяльнай картатэкай. Калі б усё было фармальна, то навошта гэта рабіць, з якой мэтай?

Зразумела, што ёсць біскупам вызначаны святар, які адказвае за ўсю парафію, за душпастырства. Важна адзначыць, гаворачы аб нейкай структуры, што заданне Езуса Хрыста ісці і навучаць усе народы (параўн. Мц 28, 19) застаецца нязменным і для кожнага святара павінна быць прыярытэтным. Я спадзяюся, што так і ёсць. У гэтым сэнс.

Душпастырская дзейнасць, арганізацыя духоўнага жыцця – гэта аснова асноў. Яна заўсёды была для мяне на першым месцы, дзе б я ні быў. Нават не важна, што касцёл будуецца і забірае шмат часу ў святара.

Калі ў парафію прыязджаю, то першае, што арганізую, – г. зв. "духоўнае кармленне", не ад адной акцыі да другой, а сістэматычна. Сюды адносіцца перадусім арганізацыя катэхезы, падрыхтоўкі да вянчання, хрышчэння, да сакрамантаў для дарослых. Для мяне вельмі важна, каб сталыя людзі таксама вывучалі Біблію і Катэхізіс Каталіцкага Касцёла, таму ёсць біблейская група, ёсць моладзевая група, а таксама ўсе астатнія духоўныя суполкі, як і ў іншых парафіях. У Статуце агульна прапісана, што парафія пад кіраваннем пробашча, назначанага біскупам, арганізуе дзейнасць, накіраваную на распаўсюджванне каталіцкага веравызнання і духоўнае ўмацаванне парафіян.

Ужо пасля неабходна скласці структуры, якія ясна рэгламентуюцца пэўнымі пунктамі, для таго, каб было камфортна даносіць узгаданыя духоўныя каштоўнасці. У кантэксце гэтага парафіяльны камітэт для майго служэння ў парафіі вельмі важны, у тым ліку як дарадчыкі, якія дапамагаюць прымаць рашэнні.

***– Якая іх роля?***

– З невялікай групай на чале са старшынёй Рады мы бачымся нават некалькі разоў на тыдзень. Кожны дзень абмяркоўваем пытанні, якія датычаць будаўніцтва касцёла: напрыклад, дакументы падпісаць, закупіць будаўнічыя матэрыялы...

Поўны склад Рады некалькі разоў на год збіраецца. Звычайна перад Раством, Вялікаднем, перад такімі падзеямі, як Першая св. Камунія, канфірмацыя, а таксама перад нашым парафіяльным святам, 22 кастрычніка. Абмяркоўваем арганізацыйныя моманты і абавязкі, якія ёсць амаль у кожнага з нас: хтосьці адказвае за працэсію, за падрыхтоўку ўсяго неабходнага да ўрачыстай літургіі, хтосьці – за пачастунак для гасцей.

Акрамя гэтага, у Рады ёсць абавязак калегіяльнага абмеркавання розных момантаў. Адным з іх быў удзел парафіян у будаванні касцёла. Лічу, што такія пытанні трэба вырашаць менавіта калегіяльна, таму што ўзвядзенне святыні з'яўляецца нашым сумесным заданнем. Пасля дыскусій і выказвання сваіх меркаванняў Рада прыняла рашэнне, а я агучыў яго падчас парафіяльных аб'яў на нядзельнай св. Імшы. Таксама мы раіліся пры ўсталяванні поручняў у нашую капліцу.

***– Як Вы вырашаеце спрэчныя моманты, калі яны ўзнікаюць?***

– Калегіяльным спосабам. Звычайна канфліктных, вельмі спрэчных пытанняў не было. Думаю, прычына таксама ў тым, што ўсе мы веруючыя людзі. Мы молімся разам на пачатку сходу і пасля, каб Святы Дух напоўніў нас разуменнем, мудрасцю.

Розныя бываюць бачанні. Пасля агучвання аргументаў аднаго, другога, трэцяга боку мы прымаем рашэнне. Дыскусійныя моманты дагэтуль заўсёды вырашаліся абсалютна спакойна, без усялякіх крыўд, што кагосьці не паслухалі. Такога дакладна не памятаю.

***– Выходзячы з такога супрацоўніцтва, якія плюсы Вы бачыце і для сябе, і для парафіян, удзельнікаў камітэту і не толькі?***

– Плюс для святара такі, што ён можа больш рэзультатыўна духоўную дзейнасць весці. Таксама гэта важна для самой супольнасці. Калі казаць пра парафіяльны камітэт, то ён адчувае адказнасць за парафію. Неяк падчас сходу я агучыў думку, што нам неабходна так арганізаваць парафію, каб у момант, калі пробашча не стане (па розных прычынах), парафія нейкі час магла самастойна функцыянаваць. Пакуль біскуп не вырашыць, што і як далей, нейкі кароткі час супольнасць застанецца пад пэўнай апекай Рады, якая будзе клапаціцца, напрыклад, аб падрыхтоўцы ўсяго неабходнага для літургіі для святара, які будзе прыязджаць на замену.

Калі ісці далей у разважаннях, чалавек, які пасля не будзе ўваходзіць у Раду, захавае адказнасць за сваю парафію. Дзе б такі парафіянін не апынуўся, ён будзе разумець, што можа ўнесці свой уклад у арганізацыю парафіі. Ён не будзе баяцца падысці і сказаць: "Я магу чымсьці дапамагчы".

Таксама парафіяне, якія бачаць функцыянаванне Рады, вучацца, становяцца больш адказнымі за сваю парафію. Яны ў поўнай меры ўсведамляюць, што "парафія – гэта мы", што не толькі пробашч ці Рада з'яўляюцца важнымі, а астатнія толькі "захажане". З гэтага таксама складаецца паняцце салідарнасці хрысціянскай.

Падзялюся яшчэ гісторыяй знаёмага, які жыў у Казахстане. Ён казаў, што ў яго парафіі, дзякуючы актыўнай дапамозе з-за мяжы, вельмі хутка ўзвялі касцёл. Аднак пасля было такое пачуццё, быццам святыню ім падарылі, быццам яна не іхняя. Не адчувалася адказнасць. І калі надышоў час рамантаваць касцёл, было вельмі цяжка актывізаваць вернікаў, пераканаць, што гэта "наша", што супольнасць павінна праявіць найперш на сябе.

То-бок, у перспектыве падобная арганізацыя парафіі паказала свае вялікія мінусы. Чалавек не адчуваў сябе адзіным цэлым з супольнасцю і меў такі падыход: ёсць святар, яго касцёл, ён памаліўся, нас благаславіў, мы пайшлі, а ён хай далей сам усё ладзіць паводле свайго бачання.

***– Кс. Яўген, а як святару даверыцца парафіянам, як навучыцца дэлегаваць?***

– Гэта ўсё адбываецца праз памылкі. Калі ў кагосьці з нас нешта не атрымаецца, наступным разам мы зробім працу над памылкамі. Назіраю, што за тры гады – хвала Богу! – мы ідэальна размеркавалі функцыі ў нашай Радзе. Цяпер, калі трэба нешта арганізаваць, я бачу, што, напрыклад, у гэтага чалавека добра атрымаецца зладзіць паездку, у іншага – прывезці піламатэрыялы. Гэта вынікае з выканання нейкіх раней дэлегаваных пытанняў ці просьбаў. Можа, нават лепш казаць не пра дэлегаванне, а што хтосьці адгукнуўся на маю просьбу і добра справіўся.

***– Адкуль Вы бралі прыклад такого ўзаемадзеяння, ідэі размеркавання абавязкаў, дзе натхняліся?***

– Больш за ўсё такіх прыкладаў у мяне было ў перыяд служэння ў Аўстрыі, куды я езджу з 2010 года. Падобныя выезды называюцца "летні дапамогай" мясцоваму святару, які едзе ў водпуск. Падчас іх я змог унікнуць ва ўнутраную структуру функцыянавання парафіі праз размеркаванне нейкіх функцый, абавязкаў, і мне гэта вельмі спадабалася.

Трэба сказаць, што там парафіяльны камітэт больш удзельнічае ў арганізацыйных пытаннях. Напрыклад, падчас першых паездак маё прабыванне ў Аўстрыі ладзіў не святар. Ён мяне толькі прывітаў, паказаў касцёл, распавёў яго гісторыю, пазнаёміў з гісторыяй мясцовасці (гэта быў Франкенбург-ам-Хаусрук) і сказаў, што ўсё астатняе арганізуе "вось гэты" чалавек з Рады. Я першы раз быў здзіўлены.

Як выглядала "ксяндзовая сфера"? У парафіяльным доме знаходзілася тры кабінеты: для святара, памочніка і сакратаркі, якая працавала кожны дзень. Раніцай я прыходзіў у касцёл – да літургіі ўсё было падрыхтавана (у асноўным, жанчына бывае адказнай за літургію). Арганіст перад службай толькі паказваў мне на зацвярджэнне план песень, якія будзе выконваць: згодзен я ці трэба ўнесці карэкціроўкі. Таму святар там прыходзіць за паўгадзіны да літургіі. Пасля св. Імшы я ішоў на падрыхтаваны сняданак, далей прыходзіла сакратарка і знаёміла з пытаннямі, з якімі звярталіся парафіяне. Напрыклад, адна жанчына папрасіла благаславіць новыя заручальныя пярсцёнкі, бо адзін згубілі і вырашылі два новыя зрабіць. І ўсё распісана па часе: св. Імша а 7-ай, сняданак а 8-ай, а палове 9-ай я ўжо благаслаўляў пярсцёнкі ў кабінеце пробашча. Затым сакратарка клала мне на стол план: вось тут і тут просяць пагутарыць, а там паехаць на сумеснае святкаванне юбілею. Калі я першы раз меў такі досвед, то здзіўляўся: няўжо можна арганізаваць усё на такім узроўні? Функцыянуе там усё ідэальна, на маю думку.

Цяпер я езджу – за выключэннем апошніх двух гадоў – у супольнасць Мольн, таксама ў Аўстрыі. Там ужо ведаю ўсё функцыянаванне парафіі. Пробашч спакойна з'язджае, нават да майго прыезду. Вітае мяне ўдзельнік Рады, перадае ключы ад парафіяльнага дома. Мясцовая сакратарка, таксама з Рады, прыходзіць на некалькі гадзін у дзень і распісвае цэлы план дня святара і план тыдня. Больш за тое, яна нават распісвае інтэнцыі св. Імшы на тыдзень, з якімі прыходзяць парафіяне. Таксама Рада чытае ўсе аб'явы: якія рашэнні былі прыняты і ўзгоднены з пробашчам, якія падзеі чакаюцца. У Раду ўваходзяць валанцёры, але сакратарка аплочваецца парафіяй, бо гэта для яе пастаянная праца.

***– Кс. Яўген, што з убачанага Вы яшчэ б хацелі ўкараніць у сябе ці бачыць у Беларусі?***

– Над гэтым пытаннем я думаў. Ведаеце, было б добра, каб у нашых парафіях быў чалавек, які б дапамагаў святару арганізаваць тыдзень працы, служэнне ў парафіі. Як сакратар у супольнасцях, якія я наведваю. І каб можна было прапанаваць яму аплату годную. Акрамя гэтага, думаю, варта ўмацоўваць і развіваць тое, што ўжо існуе, укараняць больш актыўны ўдзел Рады і парафіян у жыцці супольнасці. На такую перспектыву трэба працаваць.

Лічу, што гэта было б вялікай дапамогай для святара. Нават такія простыя пытанні, як парафіяльная картатэка. Ксёндз не можа фізічна сядзець і некалькі тысяч картачак прыводзіць у парадак, сістэматызаваць. У закрыстыі ў нас ёсць два сталы: за адным пробашч сядзіць, за другім або вікарый, або хтосьці з Рады. Таксама ёсць асоба, якая можа дапамагчы выпісаць пасведчанне аб хросце.



ЭКАЛАГІЧНАЯ ЦНОТА



Алена Майсюк

# ПАВЫШАЕМ ЭНЕРГАЭФЕКТЫЎНАСЦЬ У ЦЕЛЕ І НАВАКОЛЬНАЙ ПРАСТОРЫ




працяг са с. 1

**Настала халодная пара, і нам хочацца цяпла. Ці варта верыць таму, што гарачыя напоі сagrаваюць, вокны неабходна заклейваць, а газавая канфорка лепшая, чым цэнтральнае ацяпленне? Як весці сябе ў чаканні грамадскага транспарту? Што лепш для працяглага саграванне? Сёння ў рубрыцы пра энергаэфектыўнасць цела і навакольнай прасторы.**

### ЦЯПЛО Ў ЦЕЛЕ

*Ачышчэнне арганізма*

У арганізме за абаграванне адказвае печань. Калі яна чыстая, то здольна тварыць цуды энергавытворчасці для арганізма. Тут кроў саграваецца і дастаўляе цяпло ў самыя аддаленыя часткі цела. Таму важна, каб дробныя капіляры былі чыстымі, інакш цяпло не будзе даходзіць да скуры, да пальцаў.

Напярэдзе Адвэнт, і гэта добры час, каб пачысціць печань. Адзін з эфектыўных спосабаў зрабіць гэта – даць стрававальнай сістэме адпачыць. Дзякуючы дням на вадзе, у арганізма з'явіцца час, каб заняцца генеральнай чысткай.

Сagrаванне гарачымі напоямі можа ў некаторых сітуацыях справакаваць пераахаладжэнне. Пры прыёме алкаголю адразу ж адбываецца пашырэнне сасудаў, кроў хутчэй цыркулюе, але гэта прымушае арганізм выкідваць залішнюю тэмпературу вонкі. Тым часам жыццёва важныя органы адчуваюць дэфіцыт цяпла і могуць лёгка пераахаладзіцца. Такая ж сітуацыя і з гарачымі напоямі, з тым дапаўненнем, што яны ў арганізме становяцца лішняй вадкасцю, якую потым трэба сagrаваць рэсурсамі цела.

*Рух і адпаведнае надвор'ю адзенне*

Лепшы спосаб сagrэць цела – гэта раўнамерны рух, каб кроў цыркулявала, але не выкідвала залішняе цяпло. Зімой на марозе нельга скручвацца і стаяць нерухома, ад гэтага кроў не цалкам цыркулюе па сасудах. Дастаткова расслабіцца, тады можна адчуць цяпло. Гэта дзейнічае пры ўмове, што цела ўцеплена адзеннем, адпаведным надвор'ю.

Адзенне для саграванне можа быць натуральным, калі вы не інтэнсіўна рухаецеся. Пры вялікай фізічнай нагрузцы лепш выкарыстоўваць адзенне са штучных матэрыялаў – гэта дапаможа адвесці залішняе цяпло і вільгаць. Лепш апранаць прасторнае адзенне, так ствараецца паветраны буфер.

Сагрэтыя і сухія ногі – яшчэ адзін сакрэт цяпла ў арганізме. Ступні – самыя аддаленыя ад печані часткі цела, а таму і самыя ахаладжаныя. Лепш за ўсё купляць абутак з дыхаючых матэрыялаў, каб пазбегнуць парніковага эфекту. Калі адбылося празмернае ахаладжэнне арганізма, самы хуткі спосаб сagrэцца – паставіць ногі ў пасудзіну з цёплай вадой.

### УТУЛЬНАСЦЬ У ДОМЕ

*Свежае паветра сagrавае*

Кісларод, раствораны ў крыві, разносіць цяпло па целе. Вось чаму важна праветрываць памяшканне, у якім чалавек знаходзіцца працяглы час. Наглуха заклееныя вокны нясуць у сабе небяспеку пагаршэння стану арганізма і падыходзяць толькі для складскіх памяшканняў, дзе не прадугледжана сталае знаходжанне чалавека.

У доме з пячным ацяпленнем праветрыванне неабходна для лепшай працы печы і каб выдаліць лятучыя рэчывы, якія ўзнікаюць пры згаранні паліва. Аналагічна сagrаванне кухоннай газавай плітой можа прывесці да атручвання арганізма такімі рэчывамі. Найбольш небяспечныя яны для дзіцячага арганізма. Памятайце пра гэта, і падчас выкарыстання газу ў быце абавязкова праветрывайце памяшканне.

Абагравальнікі даюць часовы эфект мясцовага значэння і спальваюць патрэбны арганізму кісларод, высушваюць паветра, што прыводзіць да абязводжвання цела, якое такім спосабам грэецца. Лепш апранаць адзенне і абутак, адпаведныя тэмпературнаму рэжыму, і зрабіць памяшканне энергаэфектыўным. Зімой рэкуператары (адмысловая вентыляцыя) цяпла вярнуць свежае і цёплае паветра ў ваш дом.

*Уцяпляем сцены і вокны*

Уцепленыя сцены, але з "дыхаючым" эфектам, дапамогуць захаваць правільны мікраклімат у памяшканні. Калі на вонкавых сценах бачны ўзор з фіксатараў уцяпляльніка, значыць, ён неэфектыўны. Нават праз гэтыя дзюбелі сыходзіць каля 18% цяпла. Да 40% цяпла сыходзіць праз няправільна ўсталяваныя вокны. Уцечка можа адбывацца, калі:

- паміж сцяной і аконнай рамай недастатковы пласт уцяпляльніка;
- у пластыкавых вокнах выйшлі са строю ўшчыльняльнікі;
- у драўляных вокнах няма герметыкі паміж шклом і драўлянай асновай;
- ёсць толькі адзін пласт шкла;
- існуюць шчыліны і зазоры паміж рамай і рухомымі элементамі акна.

Драўляныя вокны даўгавечныя, калі іх правільна ўцяпліць. Выкарыстоўвайце сіліконавы герметык, каб пазбавіцца ад усіх шчылін паміж дрэвам і шклом. Выкарыстоўвайце правільныя гумовыя ўшчыльняльнікі, тэрмін іх службы ў шмат разоў пераўзыходзіць паралонавыя, а таксама папяровае праклейванне. У вокнах ПВХ ушчыльняльнікі на трэці год эксплуатацыі ўжо неэфектыўныя. Для шкла выкарыстоўвайце плёнку, гэта энергазберагальнае пакрыццё выратуе ад перагрэву летам і захавае цяпло зімой.

Калі ў прасторы акна ці нават у кутах памяшкання з'яўляюцца чорныя пыльныя налёты, там ёсць шчыліны. Іншы спосаб праверкі наяўнасці ходу паветра – з'яўленне павуціння. Павукі плятуць яго там, дзе ёсць рух паветра. Такія месцы варта добра ўшчыльніць герметыкам, а пры вялікіх зазорах скарыстацца мантажнай пенай.

*Гарышча і падлога*

Цёплае паветра імкнецца ўверх. У доме добра ўцяпліце гарышча. Для гэтага існуе спецыяльная эквата. Гэта лепшы і самы эканомны варыянт з існуючых.

Добры пласт уцяпляльніка, дываны на падлозе, зачыненыя на зіму паддувалы ў падмурку дапамогуць захаваць цяпло ў доме. Гэта актуальнае пытанне і ў кватэры, асабліва на першым паверсе. Выкарыстоўвайце натуральныя ваўняныя тапачкі. Укладзіце цёплую вусцілку не толькі ў вулічны, але і хатні абутак.

Вызваліце радыятар пад акном ад фіранак (калі фіранкі да падлогі, усё цяпло застаецца ў прасторы акна). Радыятар прадухіліць прамярзанне акна і ўтварэнне цвілі, а таксама цяпло будзе цыркуляваць па пакоі. За радыятар змясціце адбівальнік цяпла, а ў хаце размясціце яго над печкай.

*Утульна вам перазімаваць!*

**Энергаэфектыўнасць – рацыянальнае выкарыстанне энергетычных рэсурсаў; выкарыстанне меншай колькасці энергіі, каб запэўніць той жа ўзровень энергетычнага забеспячэння.**

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

# Ці можна каталіку займацца ёгай?

grodnensis.by

*У разуменні сучаснага еўрапейца ёга, як правіла, азначае шэраг фізічных практыкаванняў і палажэнняў цела, якія ствараюць пачуццё добрага самаадчування, унутранага спакою і гармоніі, а таксама служаць для захавання цялеснай маладосці і здароўя.*

*Ёга бярэ свой пачатак прыкладна за тысячу гадоў да нашай эры, і яе мэта – прывесці чалавека да збаўлення, якое разумеецца як вызваленне ад матэрыяльнага свету, поўнага пакут. Гэтае вызваленне дасягаецца шляхам выканання маральных прынцыпаў, індывідуальнай самадысцыпліны і практыкаванняў цела на пэўных пазіцыях. Бог, з якім вядзе да яднання ёга, – гэта не асоба Бога, а духоўная энергія, прырода і космас.*

*Ва Усходняй Еўропе практыкаванне ёгі, уключаючы маральны дыктат, разумовую і фізічную падрыхтоўку, практыкаванні для цела, трэніроўкі дыхання і медытацыю, абмяжоўвалася толькі практыкай пэўных пазіцый цела (асан) і трэніроўкамі дыхання. Майстар (гуру) па-ранейшаму незаменны, вучыць нерухомасці цела, затрымліванню дыхання і прыпыненню думак, якія вядуць да перажывання смерці. Магчыма, некаторыя практыкуючыя ёгу маюць ілюзію, што практыкаванні для розуму і цела, якія называюцца медытацыяй і сузіраннем, аналагічныя хрысціянскім практыкам і могуць падрыхтаваць і пазнаёміць іх з хрысціянскай набожнай малітвай.*

*Але нельга падрыхтавацца да малітвы, практыкуючы ёгу або дзэн. Хрысціянская малітва – гэта гісторыя любові. У натуралістычнай місціцы любоў зусім не мае сэнсу. Каб любіць, трэба быць удваіх. Аднак у прыродным містыцызме ўсё абмяжоўваецца безасабовым, боскім "я". Біблія акрэслівае, што "Бог ёсць любоў" (параўн. 1 Ян 4, 16), а будызм гаворыць пра любоў, як пра небяспечную ілюзію. Таму трэба рабіць радыкальны выбар.*

*Чаму хрысціянін павінен пазбягаць ёгі, нават як простага фізічнага практыкавання? Пры практыцы ёгі адбываецца пакланенне язычніцкім багам і тым самым парушаецца першая запаведзь. Акрамя таго, тэхніку нельга аддзяліць ад ідэі, таму ў аснoўным кожная ёга, нават без свядомага намеру практыкуючага, з'яўляецца культам індуісцкіх бостваў. Практыкі ёгі заклікаюць вызваліць чалавека ад свету, які разумеецца як зло, што несумяшчальна з хрысціянскім духам. Таксама несумяшчальна з гэтым духам перакананне, што менавіта праз практыкаванні можна дасягнуць збаўлення – быццам чалавек можа дасягнуць гэтага сам, сваімі сіламі і працай, без Бога.*

*Праходжанне будыйскага або індуісцкага рытуалу ініцыяцыі – гэта перадача сябе ворагу (як кажуць гуру, сілам прыроды). Персаніфікаваныя сілы прыроды айцы Касцёла называлі дэманамі, а мы гаворым пра дэманічных духаў. Такім чынам, калі мы ўдзельнічаем у абрадзе ініцыяцыі, згаджаемся з выніковым запаветам з гэтымі духамі, што для хрысціяніна з'яўляецца адмаўленнем ад Хрыста. Але Пан Езус перамагае ва ўсім, і калі мы просім Яго вызваліць нас ад тых сувязей, якімі звязалі сябе праз няўважлівасць ці адсутнасць ведаў, Ён заўсёды дапаможа.*

# СЯМ'Я НЕ МАЕ МЕЖАЎ



Яна Чайко

Чатыры гады таму я выехала вучыцца ў Польшчу. Аб тым, што адчувала ў першыя дні, прыпамінаюць толькі нататкі ў тэлефоне: разгубленасць сярод вялізнай Варшавы, самотнасць і страх самастойнасці.

Вельмі хутка ўсё змянілася: з'явілася шмат знаёмстваў, захапленне горадам і пачуццё незалежнасці. Тады я была вельмі ўдзячная сваёй сям'і за магчымасць вучыцца за мяжой і падтрымку ва ўсім. Мінае час, а гэта не змяняецца: якая б ідэя не ўзнікла ў маёй галаве, мяне падтрымліваюць, нешта раяць і нават дапамагаюць рэалізаваць.

На працягу ўсіх гэтых чатырох гадоў я знаходжуся ў сталым кантакце са сваімі бацькамі. Кожны дзень мы сазвоньваемся, дзелімся навінамі, думкамі і турботамі. Але так было не заўсёды. Як і кожны падлетак, які вырваўся з бацькоўскага дома, я хацела быць ва ўсім самастойнай і незалежнай, тусавацца па вечарах, а тут маці тэлефануе і пытае, ці добра я сёння паела. Я крыўдзілася на гэта, бо не хацела, каб да мяне ставіліся, як да дзіцяці. Але калі на працягу дня мама нават не пісала, тады я званіла з пытаннем: "А чаму ты не пішаш?".

Калі прыязджала дадому, усё часцей адчувала, што там мяне лічаць дарослай. Са мной пачалі дзяліцца клопатамі, прасілі парады і дапамогі. Тады я сама перастала штосьці ўтойваць і пачала дзяліцца з бацькамі сваімі думкамі і праблемамі. Так я зразумела, што сям'я – гэта насамрэч самыя блізкія людзі, якія будуць заўсёды на маім баку і зробяць усё дзеля мяне.

Вельмі цяжка прыйшлося ў перыяд лакдаўна падчас другой хвалі каранавіруса. Жыццё сканцэнтравалася ў чатырох сценах інтэрната, а выйсці можна было толькі ў краму. Падтрымку тады я атрымлівала ад сваёй сям'і. Менавіта з іх дапамогай змагла сабрацца з сіламі і зрабіць крок наперад да дасягнення сваіх мэт.

Найкаштоўнейшым досведам сталі зносіны з малодшымі братам і сястрой. З дзяцей, якія заўсёды сварыліся і біліся, мы сталі сябрамі. Мне вельмі прыемна і цёпла на душы, калі брат звоніць і просіць дапамагчы вырашыць праблему, а сястра хоча быць падобнай да мяне.

Як бы моцна не адчувалася розніца пакаленняў, я ўпэўнена, што бацькі зразумеюць мяне, як ніхто іншы. Азіраючыся, бачу, што там, дзе калісьці я злавалася на маму і тату, яны мелі рацыю і сапраўды далі мне нашмат больш, чым я хацела. Досвед жыцця за мяжой даў мне ўпэўненасць, што ў сям'і няма межаў. Любяць аднолькава: як пад адным дахам, так і за 300 км.

ДАПАМАГЧЫ ДОБРАЙ РАДАЙ

# ЭТАПЫ ПАДРЫХТОЎКІ ДА СУЖЭНСТВА



**Кс. Павел Салабуда,** *псіхолаг*

працяг са с. 1

На жаль, у наш час інстытут сям'і падвяргаецца ўсё большым і большым нападкам. Каштоўнасць шлюбу ўспрымаецца па-рознаму, словы клятвы перад Богам і сужэнцам вельмі хутка забываюцца і губляюць усялякі сэнс. Усё менш людзей задумваецца аб добрым і правільным выбары мужа ці жонкі, і ўсё больш аб тым, што ў момант няўдачы заўсёды можна разысціся і паспрабаваць яшчэ раз. Робячы выбар, малады чалавек кіруецца толькі прынцыпам задавальнення і забывае, што на тое, што нам нехта падабаецца, павінна накласціся больш усвядомленае рашэнне. Сёння таксама губляецца сэнс вянчання, увага надаецца толькі прыгожай цырымоніі і забавам, а сямейнае жыццё становіцца "дамовай-кантрактам", напрыклад, для выплаты крэдытаў. Маладыя людзі, заключаючы сужэнскі саюз, напэўна, будуць перажываць шмат цяжкасцей, але яны павінны рабіць усё магчымае, каб сілкаваць і ўмацоўваць свой шлюб непадзельнай любоўю, а спрабуючы спалучаць Божыя справы з чалавечымі, павінны заставацца вернымі сабе душой і целам у долі і ў нядолі да канца жыцця.

Адзінага рэцэпту шчаслівага і паспяховага сужэнства не існуе, але, безумоўна, маладыя людзі мусяць быць вельмі добра падрыхтаванымі да такога сур'ёзнага рашэння ў сваім жыцці, мусяць даспець для шлюбу. Паспяховы сужэнскі саюз патрабуе шмат часу і працы над сабой ды адносінамі з бліжнім. Каб у далейшым сям'я правільна функцыянавала, неабходна прайсці пэўныя этапы падрыхтоўкі.

### I ЭТАП – ДАЛЕЙШАЯ ПАДРЫХТОЎКА

Гэта час, калі дзіця рыхтуецца ў сваім родным доме, у сям'і, з якой паходзіць. Лепшым узорам і прыкладам для малога з'яўляюцца бацькі. Калі дзіця бачыць, як яны адорваюць адзін аднаго павагай і любоўю, клопатам і апекай, калі бачыць, што яны шчаслівыя, то атрымлівае станоўчы вопыт і яму таксама будзе хацецца стварыць шчаслівую сям'ю. Некаторыя нават кажуць пра г. зв. спробу "пераняць сацыяльнае сямейнае шчасце": калі ў доме добры клімат у сямейным жыцці, дзіця пасля хоча перанесці гэта ва ўласную сям'ю. Часам нават можна пачуць, як, напрыклад, сын кажа, што хоча жонку, якая будзе падобна да яго мамы, або дачка выбірае хлопца, падобнага да таты. Сваім прыкладам шлюбнага і сямейнага жыцця бацькі рыхтуюць дзяцей да выканання тых жа задач ва ўласным жыцці. На гэтым этапе важна, каб баланс станоўчага досведу быў большы, чым адмоўнага. Складаней, калі сям'я няпоўная. У такой сітуацыі прысутны з бацькоў павінен паклапаціцца аб тым, каб дзіця адчувала бацькоўскую любоў. Неабходна прыкласці ўсе намаганні для развіцця свайго дзіцяці, каб яно разумела, наколькі важна выбраць будучага мужа ці жонку, якія заўсёды будуць побач.

### II ЭТАП – БЛІЖЭЙШАЯ ПАДРЫХТОЎКА

Гэта час, калі маладзён пачынае распазнаваць уласнае пакліканне. Значную ролю па-ранейшаму адыгрываюць бацькі, выхавацелі, катэхеты і душпастыры. На гэтым этапе малады чалавек ужо можа праз спецыяльна арганізаваныя заняткі ў школе або ў катэхетычным класе знайсці больш інфармацыі на тэмы, звязаныя з сям'ёй і падрыхтоўкай да сямейнага жыцця, да адказнасці ў шлюбе, да правільнага перажывання ўласнай сексуальнасці і г. д. Важна, каб атрыманыя веды стваралі правільны, хрысціянскі вобраз сям'і. Важна таксама добра пазнаць чалавека, якога любіш, даведацца аб яго поглядах на жыццё, аб разуменні шлюбу і сям'і, аб мэтах і жаданнях, пазнаёміцца з яго сям'ёй і блізкімі, з духоўным жыццём і ўласнай культурай.

### III ЭТАП – НЕПАСРЭДНАЯ ПАДРЫХТОЎКА


polanka.przemyska.pl

Такой падрыхтоўкай будуць арганізаваныя Касцёлам перадшлюбныя курсы. Важна выкарыстаць розныя магчымасці арганізаваных сустрэч, рэкалекцый, канферэнцый і г. д. Можна паспрабаваць паўдзельнічаць у перадшлюбных занятках у малых групах, пагутарыць з сямейным псіхолагам і пазнаёміцца з натуральнымі метадамі планавання сям'і. Маладажоны павінны зрабіць усё, каб іх адносіны былі лепшымі, трывалымі і проста шчаслівымі.

Важны этап падрыхтоўкі – заручыны, пра якія сёння мала хто памятае. Гэта нагода і магчымасць пазнаёміцца з будучымі мужам ці жонкай, з іх бацькамі, а таксама ўзяць на сябе рэальную адказнасць за будучага сужэнца. А перадшлюбная споведзь становіцца момантам пераходу да новага этапу жыцця, якім з'яўляецца сужэнства.

Гатоўнасць да сужэнства – гэта аптымальны стан будучых сужэнцаў для выканання задач, звязаных са шлюбам і сям'ёй.

---

РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

*Кс. Юрый Марціновіч*

***21 лістапада – Урачыстасць Езуса Хрыста, Валадара Сусвету***
***Ян 18, 33b–37***

Пілат спытаўся ў Езуса: "Ты Кароль юдэйскі?". Езус адказаў яму: "Ці ад сябе ты кажаш гэта, ці іншыя сказалі табе пра Мяне?". Пілат адказаў: "Ці ж я юдэй? Твой народ і першасвятары выдалі Цябе мне. Што Ты зрабіў?". Езус адказаў: "Валадарства Маё не з гэтага свету. Калі б з гэтага свету было Маё Валадарства, то слугі Мае заступіліся б за Мяне, каб Я не быў выдадзены юдэям. Але цяпер Маё Валадарства не адгэтуль". Пілат сказаў Яму: "Значыць, Ты Кароль?". Езус адказаў: "Ты кажаш, што Я Кароль. Я для таго нарадзіўся і для таго прыйшоў на свет, каб засведчыць аб праўдзе. Кожны, хто ад праўды, слухае голас Мой".

## Атрымаць і перадаць далей

*Прыклад любові дае нам Езус. Яна з'яўляецца "сэрцам" Яго жыцця і навучання. Але з усіх учынкаў любові, якія здзейсніў наш Збаўца на зямлі, ніводзін не гаворыць больш, чым Яго смерць на крыжы. Езус сам сказаў: "Ніхто не мае большай любові за тую, калі хто жыццё сваё аддае за сяброў сваіх" (Ян 15, 13).*

*Кожнаму з нас неабходна ведаць, што ён любімы. Калі не адчуваем сябе любімымі, мы не можам любіць іншых. Так адбываецца таму, што любоў – гэта менавіта даванне сябе. А калі не лічым сябе каштоўнымі і любімымі, то баімся даваць сябе іншым. Бо ніхто не дорыць танныя рэчы таму, каго шануе і кім захапляецца. Езус, паміраючы за нас на крыжы, даў нам надзвычай моцны і выразны знак таго, што мы любімыя Ім, а значыць, здольныя любіць іншых.*

*Хрыстос, Кароль Любові, памёр на крыжы, як злачынец, каб мы былі збаўлены. Быў катаваны, каб мы ацаліліся. Цярпеў бесчалавечнае прыніжэнне, каб мы ўзняліся. Быў адкінуты людзьмі, каб мы былі прыняты Айцом у Нябёсах. "І да злодзеяў залічаны быў", каб мы маглі стаць святымі. Ён даў сябе "перамагчы на крыжы", каб мы сталі пераможцамі і разам з Ім уваскрэслі ды дасягнулі Неба.*

*Самая лепшая падзяка за Божыя дары – тое, што аддаём іх іншым. Таму давайце любіць іншых і дзяліцца з імі тым, што атрымліваем ад Бога. Гэта будзе з нашага боку найлепшая падзяка Хрысту Валадару за Яго неспасцігную любоў да нас.*

*Пане Езу Хрысце, навучы мяне дзяліцца з іншымі тым, што я атрымліваю ад Цябе кожны дзень!*

***28 лістапада – I Нядзеля Адвэнту***
***Лк 21, 25–28. 34–36***

Езус сказаў сваім вучням: "Будуць знакі на сонцы, і месяцы, і зорках, а на зямлі – спалох народаў і замяшанне ад гулу марскога хвалявання. Людзі будуць млець ад страху і ад чакання таго, што прыйдзе на свет, бо захістаюцца моцы нябесныя. І тады ўбачаць Сына Чалавечага, які будзе ісці ў воблаку з моцаю і славаю вялікай. Калі ж гэта пачне адбывацца, тады выпрастайцеся і падыміце галовы вашыя, бо набліжаецца адкупленне вашае. Зважайце ж на сябе, каб сэрцы вашыя не былі абцяжараныя пахмеллем і п'янствам, і жыццёвымі клопатамі, і каб дзень той не застаў вас неспадзявана, як пастка. Бо ён прыйдзе на ўсіх, хто жыве на паверхні ўсёй зямлі. Дык чувайце ўвесь час і маліцеся, каб вы маглі пазбегнуць усяго таго, што павінна адбыцца, і стаць перад Сынам Чалавечым".

## Падпарадкавацца Божай волі

*На самым парозе Адвэнту Езус не заклікае нас быць бяздумнымі і бесклапотнымі. Гэта хутчэй заклік да ўсталявання адпаведнай іерархіі каштоўнасцей. Бо нельга чакаць кагосьці з радасцю, калі ты пагружаны ў сумныя думкі пра шэрае, цяжкае існаванне. Калі Адвэнт павінен быць радасным чаканнем прыходу Месіі, то клопаты, якія ёсць у кожнага, трэба разглядаць у іншым святле, з пункту гледжання веры. Так што нельга песімістычна глядзець на рэаліі жыцця.*

*Наступны Адвэнт павінен стаць для нас часам надзеі, бо Пан з намі, Пан суцяшае нас, Пан пасылае нам дапамогу! Пазітыўнае мысленне нараджае ў нас больш жадання да малітвы, да актыўнасці. Таму, калі мы хочам лепш падрыхтавацца да Божага Нараджэння, давайце паспрабуем паглядзець на штодзённыя справы Божымі вачыма.*

*Кожны павінен быць гатовы прыняць Хрыста ў любы час. Гаворка ідзе пра тое, каб быць адкрытым на Божую волю. Вядома, гэта няпростая задача. Хрыстос чакае ад нас поўнага падпарадкавання – паслухмянасці.*

*Давайце на пачатку Адвэнту зробім своеасаблівы рахунак сумлення, у якім кожны з нас адкажа на пытанне, што перашкаджае яму ў гэтым чуванні, у тым, каб быць гатовым.*

*Пане Езу Хрысце, дазволь мне заўсёды быць адкрытым на Тваю волю!*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ ВАЛЕРЫЮ ШЭЙГЕРЭВІЧУ

*з нагоды 14-ай гадавіны святарскага пасвячэння складаем самыя шчырыя пажаданні. Няхай Езус Хрыстус блаславіць кожны Ваш дзень, Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае сваёй апекай, а Святы Дух дапамагае ў выкананні душпастырскай паслугі. Жадаем добрага здароўя на доўгія гады.*

*З малітвай былыя парафіяне*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ПАЎЛУ РАМАНОЎСКАМУ

*з нагоды дня нараджэння шчыра жадаем поспехаў і здзяйснення мар, шмат радасці, здароўя, нястомнага запалу ў святарскай паслузе, зычлівых і ахвярных людзей навокал, а таксама дапытлівых і адкрытых дзіцячых сэрцаў. Няхай Найсвяцейшая Маці атуляе Вас сваёй любоўю ды апекай і выпрошвае ў Сына неабходныя ласкі для Вас, асабліва ў складаных жыццёвых момантах. Няхай міласэрны Езус заўсёды валадарыць у Вашым сэрцы, а святы заступнік знаходзіцца побач. Вы нястомна і самааддана будуеце духоўны падмурак нашай парафіяльнай супольнасці, праз абвяшчэнне Божага слова вядзеце нас па дарозе праўды. Няхай Ваша мудрасць, дабрыня і клопат пра людзей заўсёды будуць для нас прыкладам жыцця. Дзякуем Пану Богу і Вам за Ваша служэнне ў нашым касцёле, за тое, што ў Вашай прысутнасці ўсе небяспекі рэчаіснасці здаюцца нязначнымі. Шчасці Божа!*

*Парафіяне касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Граўжышках*

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ ПРОБАШЧУ АНДРЭЮ ЗУЮ

*з нагоды надыходзячых імянін складаем сардэчныя пажаданні. Няхай заўсёды хапае сіл, запалу і стойкасці, каб імкнуцца да мэты ў душпастырскім служэнні. Няхай кожная хвіліна жыцця будзе радаснай і блаславёнай Езусам Хрыстом. Няхай Пан адорвае сваімі незлічонымі ласкамі, а Яго Маці заўсёды мае Вас у сваёй міласэрнай апецы.*

*Удзячныя парафіяне з в. Некрашы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АНДЖЭЮ ГАНЧАРУ

*з нагоды надыходзячых імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, цярплівасці і стойкасці ў жыцці, апекі Маці Божай і святога заступніка, дароў Святога Духа, патрэбных ласкаў ад Усемагутнага. Няхай Бог адорвае Вас сваей любоўю і блаславеннем, а Ваш Анёл-ахоўнік заўсёды будзе побач. Праз заступніцтва святога Яна Паўла II выпрошваем для Вас спакойных і ясных дзён у душпастырскай паслузе, а таксама каб Ваша праца на Божай ніве прыносіла шчодры плён. Жадаем душэўнага супакою, цішыні ў сэрцы, радасці на кожны дзень і задавальнення ад выконваемай паслугі. Дзякуем за тое, што Вы з намі і для нас!*

*З павагай і малітвай Легіён Марыі, апостальства "Маргарытка", супольнасць Маці ў малітве, Ружанцовае кола і вернікі парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АНДРЭЮ КАЗЛОЎСКАМУ

*з нагоды надыходзячых імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: Божага блаславення на кожны дзень, шчодрых дароў Святога Духа, апекі Маці Божай і святога заступніка, а таксама здароўя, сіл, супакою, надзеі і моцнай непахіснай веры.*

*Парафіяне капліцы ў Масалянах*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЗДЗІСЛАВУ ПІКУЛУ

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя на доўгія і плённыя гады жыцця і святарскай паслугі, Божай дапамогі ў рэалізацыі ўсіх планаў і надзей, апекі Езуса Хрыста і Яго Найсвяцейшай Маці на кожнай жыццёвай сцежцы. За час Вашага служэння ў нашай парафіі мы атрымалі розныя дары: праз Вашы рукі маем магчымасць яднацца з Панам Богам, з Вашых вуснаў чуем Божае слова, маем неабходную духоўную падтрымку, праз сяброўства з Вамі ўмацоўваем свае сем'і і свае адносіны, нанова адкрываем Касцёл вачыма веры. Няхай усемагутны Бог дае Вам сілу і моц, штодзённа блаславіць, каб Вы яшчэ доўга маглі крочыць па святарскім шляху. Мы паважаем Вас за вялікую адданасць Богу, молімся, любім і ганарымся Вамі.*

*Касцёльны камітэт і ўдзячныя парафіяне з Дзятлава*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ РАМАНОЎСКАМУ

*з нагоды гадавіны святарскага пасвячэння і дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог адорвае Вас найлепшым здароўем, Найсвяцейшая Маці мае ў сваёй апецы, святы заступнік нястомна дапамагае, а Святы Дух адорвае патрэбнымі ласкамі. Жадаем таксама радасці, сіл, людской зычлівасці і стойкасці ў працы.*

*Вернікі парафіі св. Юзафа ў Гродне*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЕГУ ЯНОВІЧУ

*з нагоды 6-ай гадавіны святарскага пасвячэння перасылаем сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, няспыннай апекі Маці Божай і святога заступніка, стойкасці на святарскім шляху, а таксама людской зычлівасці.*

*Вернікі парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Воўпе і члены Ружанцовага кола св. Юзафа*

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ КАЗІМІРУ ЕНДЖЭЙЧАКУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, шчасця, шчодрых Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Маці. У добрай справе няхай ласкава Бог Вас падтрымае, а Вашым марам і жаданням далоні адкрывае.*

*Яна, Валерый і Вераніка*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЯНУ РУШНІЦКАМУ

*з нагоды юбілею перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог узнагароджвае Вас моцным здароўем, стойкасцю і сілай, Маці Божая апекуецца Вамі, блаславіць на доўгія гады жыцця і атуляе плашчом любові Беззаганнага Сэрца. Няхай Святы Дух спасылае Вам свае дары, асвячае святарскі шлях і дапамагае годна выконваць душпастырскую паслугу. Дзякуем за Вашы малітвы, зычлівасць, ахвярную і адданую працу пры будаванні нашай святыні, за лагодную ўсмешку, добрае сэрца, мудрыя павучанні, цудоўны прыклад веры і набожнасці, а таксама за тое, што Вы з намі і для нас.*

*Ружанцовыя колы і вернікі парафіі св. Максімільяна Кольбэ і св. Станіслава, біскупа, у Каробчыцах*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЯНУ РУШНІЦКАМУ

*з нагоды дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Езус Хрыстус блаславіць кожны Ваш дзень, Святы Дух удзяляе шчодрых дароў, а Найсвяцейшая Панна Марыя мае ў сваёй апецы, каб Вы з добрым здароўем маглі заўсёды выконваць Божую волю.*

*Кола Жывога Ружанца Маці Божай Анёльскай з Каробчыцаў*

### ПАВАЖАНЫ АЙЦЕЦ АНДРЭЙ ЗУЙ!

*Шчыра віншуем Вас з днём нараджэння і імянінамі. Няхай Ваша здароўе будзе моцным, вера – непахіснай, з твару не сыходзіць усмешка, у сэрцы заўсёды пануе радасць, а праняні Божай міласэрнасці асвячаюць штодзённае душпастырскае жыццё. Няхай добры Езус валадарыць у Вашым сэрцы, Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, а Анёл-ахоўнік засцерагае ад усялякага зла. Заставайцеся назаўсёды такім пазітыўным, адкрытым для ўсіх вернікаў чалавекам, добрым дарадчыкам і апекуном.*

*З любоўю і павагай вернікі капліцы св. Антонія Падуанскага ў в. Гарадзішча Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЯНУ РУШНІЦКАМУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем добрага здароўя. Няхай Езус заўсёды Вас блаславіць ў душпастырскай паслузе і шчодра ўзнагароджвае за Вашу працу. Няхай кожны дзень будзе напоўнены сонцам, радасцю і шчасцем, а Маці Божая нястомна ахінае Вас плашчом мацярынскай апекі і любові.*

*Парафіяльны камітэт касцёла св. Максімільяна Кольбэ і св. Станіслава, біскупа, у Каробчыцах*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЯНУ РУШНІЦКАМУ

*з нагоды дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў: здароўя, поспехаў ва ўсіх справах, зычлівых людзей побач, душэўнага супакою і нястомнай радасці на кожны дзень. Няхай Маці Божая ахінае Вас сваім плашчом і адорвае патрэбнымі ласкамі, каб Вы маглі шчасліва і нястомна выконваць сваю паслугу і радавалі ўсіх сваёй усмешкай. Шчасці Божа!*

*Сем'і Стэцкевіч і Васільевых*

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ КАЗІМІРУ ЕНДЖЭЙЧАКУ

*з нагоды дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем здароўя, мудрасці і цярплівасці. Няхай Ваша сэрца заўсёды будзе напоўнена Божай радасцю, святлом і ласкай. Няхай добры Айцец адорвае блаславеннем, Езус абараняе ад зла, а Панна Марыя і святы заступнік нястомна маюць у сваёй апецы.*

*Сям'я Бондзюш, в. Монькаўцы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ВІКТАРУ ЗАХАРЭЎСКАМУ

*з нагоды 15-ай гадавіны святарскага пасвячэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Езус Хрыстус блаславіць кожны Ваш дзень, Маці Божая ахінае сваёй апекай, а Святы Дух дапамагае выконваць душпастырскую паслугу. Жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, каб Вы маглі шчасліва служыць Богу і людзям і цешыць усіх сваёй усмешкай.*

*Былыя парафіяне з в. Моцевічы*

### ПАВАЖАНЫМ АЙЦАМ ВІТОЛЬДУ ЖЭЛЬВЕТРА І ПРОБАШЧУ АНДРЭЮ ЗУЮ

*з нагоды імянін шчыра жадаем патрэбных ласкаў ад усемагутнага Бога, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, шчодрых дароў Святога Духа, а таксама мудрасці і поспехаў у служэнні. Няхай здароўе заўсёды спрыяе, радасць і моц ніколі не пакідаюць, а святы заступнік нястомна апекуецца Вамі.*

*Удзячныя парафіяне з Ліпнішкаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ КАНОНІКУ ЗДЗІСЛАВУ ВЭДЭРУ

*з нагоды надыходзячых імянін жадаю моцнага здароўя і радасці. Няхай Хрыстос асвячае дарогу Вашага жыцця і дапамагае надалей служыць Богу і людзям, а Маці Божая няхай ахінае Вас сваёй апекай. Дзякую за Вашы шчырыя малітвы і добрае сэрца.*

*З малітвай Аліцыя Воранава са Смаргоні*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЮРЫЮ КАНАПЕЛЬКУ

ў сувязі са смерцю мамы складаем выразы шчырага жалю і спачування. Няхай Пан Бог прыме душу памерлай у свае Валадарства, а Вам суцішыць боль пасля страты блізкага чалавека.

*Парафіяне з капліцы ў Студзеніках*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЮРЫЮ КАНАПЕЛЬКУ

ў сувязі са смерцю мамы выказваем шчырыя спачуванні. Няхай малітоўная падтрымка і словы хрысціянскага суцяшэння дапамогуць Вам перажыць гэты невыносны боль. Вечны адпачынак дай ёй, Пане!

*Вернікі капліц у Вердамічах і Верабейках*

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

Арыгінальныя фрэскавыя роспісы, якім можа быць больш за 400 гадоў, былі адкрыты рэстаўратарамі на галоўным фасадзе касцёла Божага Цела ў Нясвіжы.

Святыня была ўзведзена ў 1587–1593 гадах па праекце італьянскага архітэктара езуіта Яна Марыі Бэрнардоні з фундацыі князя Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі. Нясвіжскі касцёл стаў першым значным помнікам архітэктуры ранняга барока на тэрыторыі Усходняй Еўропы, у якім яшчэ захаваліся пэўныя рэнесансныя рысы.

Як паведаміў пробашч парафіі Божага Цела ў Нясвіжы кс. канонік Пётр Шарко, дэкан Нясвіжскі, рэстаўрацыя пакуль працягваецца. Працы па аднаўленні фасадаў пярліны беларускай сакральнай архітэктуры плануецца завяршыць у наступным годзе.




**рэлігійны часопіс**

Ніколі невядома, што больш захапляе веруючага чалавека: цудадзейная інтэрвенцыя ўсёмагутнасці Бога ці Яго таямнічае маўчанне. Бог заўсёды мае на ўвазе нешта большае, чым проста вырашэнне канкрэтнай справы. Ён імкнецца ўдасканаліць нашу веру, звяртаючыся са словамі: "Не бойся, толькі вер". Неабходна пачуць гэтыя словы! Яны дапамагаюць захаваць спакой у поўным прысвячэнні свайго жыцця Хрысту з правам вырашэння далейшага бегу падзей. Гэта вялікая школа нашай малітвы і веры.

Варта памятаць, што нялёгкія падзеі змушаюць шукаць дапамогі ў Бога. Вельмі часта Ён менавіта такім чынам плануе сустрэчу з намі. Боль, безнадзейнасць, часам страта змушаюць нас шукаць паратунку ў Госпада, становяцца пераломным момантам.




**беларуская рэдакцыя**

У кастрычніку адбылася сустрэча папы Францішка з лідарам Паўднёвай Карэі, падчас якой Пантыфік у чарговы раз пацвердзіў сваё жаданне наведаць Паўночную Карэю.

У 2018 годзе адбылася першая сустрэча лідара Паўднёвай Карэі са Святым Айцом, падчас якой Папе падарылі крыж з калючага дроту з агароджы дэмілітарызаванай зоны, што падзяляе дзве дзяржавы. Менавіта тады прэзідэнт перадаў Пантыфіку вуснае запрашэнне паўночнакарэйскага лідара Кім Чэн Ына. Францішак адказаў, што ахвотна паедзе ў Паўночную Карэю, калі атрымае афіцыйнае запрашэнне. Воля Святога Айца прыехаць у краіну разглядаецца як шанс на ўсталяванне міру на Карэйскім паўвостраве і на інтэграцыю Паўночнай Карэі ў міжнародную супольнасць.




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

З 5 па 7 лістапада ў навагрудскім кляштары сясцёр назарэтанак адбыліся духоўныя практыкаванні для дзяўчат на тэму "Святы Юзаф: цень Айца".

Канферэнцыі праводзіў пробашч парафіі святых Анёлаў Ахоўнікаў у Раготне (дэканат Дзятлава) кс. Павел Скуба. На прыкладзе св. Юзафа рэкалекцыяніст паказаў, як трэба верыць і давяраць Богу, а таксама распавёў, засяродзіўшы ўвагу на рысах характару святога, якім павінен быць будучы муж. Больш за ўсё сэрцы дзяўчат закранула начная адарацыя, калі кожная мела магчымасць пабыць у цішыні і сам-насам з Езусам.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Палiграфiстаў, 4; нумар заказу 4237; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.